© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016




# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.*

№ 11 (92). 11 — 17 сакавіка 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 20 тыс. руб.


**СЛОНІМ** *нашы людзі*



*Прыйшла вясна. Пара маляваць вусны*


**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ! ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА НА ДРУГІ КВАРТАЛ 1999 ГОДА НА "ГАЗЕТУ СЛОНІМСКУЮ".**

**КОШТ падпіскі** **для індывідуальных падпісчыкаў:** на месяц — 90 тыс. руб., на квартал — 270 тыс. руб., **для арганізацый:** на месяц — 300 тыс. руб., на квартал — 900 тыс. руб.

*НА "ГС" МОГУЦЬ ПАДПІСАЦЦА ЖЫХАРЫ СЛОНІМСКАГА, ЗЭЛЬВЕНСКАГА, МАСТОЎСКАГА І ДЗЯТЛАЎСКАГА РАЁНАЎ.*

НАШ ПАДПІСНЫ ІНДЭКС **64042** ДЛЯ ІНДЫВІД. ПАДПІСЧ. **63818** ДЛЯ АРГАНІЗАЦЫЙ


# НАС НАВЕДАЎ ЛУКАШЭНКА



**Чацвёртага сакавіка Слонімшчыну наведаў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Яго прэсслужба напярэдадні паведамляла: "У Слонімскім раёне кіраўнік дзяржавы асабіста пракантраліруе, як мясцовымі кіраўнікамі забяспечваецца зімоўка жывёлы, вытворчасць жывёлагадоўчай прадукцыі, вырашаецца комплекс пытанняў, звязаных з падрыхтоўкай да правядзення пасяўной кампаніі. У прыватнасці, прэзідэнта будзе цікавіць стан машынна-трактарнага парку АПК. Акрамя таго, падчас паездкі вялікая ўвага будзе ўдзелена стану спраў у сацыяльнай сферы і на спажывецкім рынку рэгіёна".**

### Востраў на Чырвонаармейскай

Яшчэ напярэдадні, калі стаў вядомы маршрут руху прэзідэнцкага картэжу, пачалося добраўпарадкаванне Чырвонаармейскай вуліцы. Прыбіралася смецце, падсыпаліся ямы на асфальце, выкачвалася вада з вялізных лужынаў на вуліцы... А тым часам у рэдакцыю тэлефанавалі жыхары 154-га дома з Чырвонаармейскай вуліцы. Вада заліла ўсе пад'езды да яго, і дом апынуўся, як на востраве (на здымку). Трэцяга сакавіка ваду адкачалі, але ўжо чацвёртага сакавіка дом зноў ператварыўся ў востраў...

А ў дзень прыезду прэзідэнта найбольш папрацавала слонімская міліцыя. Сваё прафесійнае свята міліцыянеры сустракалі на баявым пасту... Раніцай 4 сакавіка пасты міліцыі стаялі ўздоўж усёй Чырвонаармейскай вуліцы. Яны стаялі і на дарозе на вёску Тушэвічы, і далей – на Дзеравянчыцы, Глоўсевічы. Міліцыянеры былі на дарозе, у лесе, ахоўвалі невялікі масток, па якім павінен быў праехаць прэзідэнт... Імкліва насіліся па горадзе і наваколлю машыны КДБ і службы бяспекі прэзідэнта, якія вывучалі маршрут і правяралі, ці на месцы пасты.

Каля 11 гадзін раніцы быў перакрыты рух транспарту на Чырвонаармейскай вуліцы ў раёне баранавіцкага маста. У выніку, некалькі гадзін не хадзіў гарадскі транспарт да аграпрамтэхнікі. Людзі дабіраліся з ускраіны горада ў цэнтр і назад выключна пешшу... Чакалі прэзідэнта, і яго картэж хутка з'явіўся. Спачатку ён накіраваўся ў слонімскую райаграпрамтэхніку.

*(Працяг на 2 стр.)*



*Так людзі заходзілі 4 сакавіка ў пад'езд дома №154, што на Чырвонаармейскай вуліцы*

**ЗДАРЭННІ**

# "ТЭРАРЫСТ" З ХАДЗЯВІЧ

**Ствол самаробнага пісталета ўбачылі перад сабой супрацоўнікі слонімскай міліцыі, якія прыбылі 3 сакавіка ў Хадзявіцкую школу для расследавання кражы са сталовай.**

17-гадовы жыхар Хадзявіч Валерый Іголкін, узяўшы ў заложнікі аднаго з вучняў малодшых класаў і пагражаючы забіць малога, ён стаў выказваць у адрас міліцыянераў незразумелыя ўмовы. Падчас непрацяглых перамоў міліцыянерам удалося ўгаварыць "тэрарыста" кінуць зброю і адпусціць заложніка.

Іголкін арыштаваны. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Таямнічая прапажа

**У міліцыю з заявай звярнулася настаўніца Навадзевяткавіцкай школы К., якая паведаміла, што з яе кватэры прапалі шэсць відаў залатых вырабаў і сярэбраная манета, вартасцю адзін рубель.**

Супрацоўнікі міліцыі, якія прыбылі на месца здарэння, слядоў пранікнення ў памяшканне не знайшлі.

## Даляры ў гаражы

**З 6 на 7 сакавіка невядомыя залезлі ў гараж аднаго з жыхароў завулка Лазо ў Слоніме.** Адтуль яны ўкралі 710 даляраў ЗША і 27 млн. беларускіх рублёў. Міліцыя вядзе пошук злодзеяў.

## Падпільнаваў...

**Загадчык жывёлагадоўчай фермы вёскі Шэйкі Зэльвенскага раёна, ідучы на працу, забыўся зачыніць хату на замок.**

Гэты момант не прамінуў выкарыстаць невядомы злодзей, які зайшоў у дом і ўкраў аўдыёмагнітафон "Беларусь".

## Затрыманы гастралёры

**На мінулым тыдні на дарозе паблізу Зэльвы трое гастралёраў з Магілёва, пагражаючы жыхару гэтага райцэнтра, адабралі ў яго скураную куртку і футравую шапку.**

Зэльвенскім аператыўнікам за кароткі час ўдалося затрымаць рабаўнікоў.

## Вяж па хлявах

**Двое жыхароў вёскі Тушэвічы зрабілі начны вяж па хлявах сваіх аднавяскоўцаў.**

Здабычай злодзеяў стала адна авечка і 9 курэй. Аднак паласавацца крадзеным яны не паспелі, бо былі затрыманы работнікамі міліцыі.

## Захацелася салодкага

**Днямі слонімская міліцыя затрымала за крадзёж жыхара Баранавіч.**

Ён спрабаваў непрыкметна вынесці з гарадскога аўтобуса сумку цукру (20 кг), якую пакінуў без нагляду слонімец.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Баба дзеду не дагадзіла

**Жыхар вёскі Еленка Дзятлаўскага раёна Ж. у сваяка калоў кабана. Потым з'еў скварку, выпіў чарку, а прыйшоўшы дадому, пачаў высвятляць адносіны з жонкай.**

Ён схапіў кубак і два разы стукнуў жанчыну па галаве. З траўмай кабета была дастаўлена ў раённую бальніцу.

## Згарэў цялятнік

**У вёсцы Горка аднайменнага калгаса, што на Дзятлаўшчыне, раніцай загарэўся цялятнік.**

Агнём знішчана страха.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Цылюлька не здаецца

**Напрыканцы мінулага месяца інспектар Мастоўскай падатковай інспекцыі Юрый Цылюлька быў затрыманы работнікамі ДАІ за кіраванне машынай у нецвярозым стане.**

За гэта ён быў пазбаўлены вадзіцельскіх правоў тэрмінам на 30 месяцаў. Цылюлька абскардзіў гэтае рашэнне ў абласной аўтаінспекцыі і папрасіў замяніць пазбаўленне права кіравання на штраф. Абласное кіраўніцтва зменшыла тэрмін пазбаўлення правоў з трыццаці да дванаццаці месяцаў. Падатковы інспектар не пагадзіўся з такім рашэнннем і накіраваў іскавую заяву ў Мастоўскі раённы суд. У ёй Цылюлька не толькі прасіў замяніць пакаранне, але і вінаваціў супрацоўнікаў Мастоўскай ДАІ ў прадузятым да яго адносінах.

Прадстаўніком Мастоўскага РАУС на судзе прысутнічаў начальнік ДАІ маёр Міхаіл Палубятка.

Суддзя Галіна Грудская, разглядзеўшы ўсе абставіны справы, пакінула рашэнне абласной ДАІ без зменаў.

**Антон МАКЕЙ**

**НОВОСТИ**

## Они спешат в депутаты

**В 24 570 избирательных округах, созданных в Беларуси для проведения выборов в местные Советы депутатов, зарегистрировано 26 883 кандидата в депутаты.**

В среднем, на один избирательный округ приходится чуть более одного кандидата. Наибольшая плотность зафиксирована в Минске – в среднем, по шесть кандидатов на избирательный округ. В областных советах зарегистрировано 723 кандидата на 360 мест; в районных – 4 675 кандидатов на 4 302 места; в городские Советы в городах областного подчинения – 1 842 (881 место), в городские Советы в городах районного подчинения – 260 (193).

**БелаПАН**

**КУРСЫ ВАЛЮТ**

по состоянию на 09.03.99 г. (в тыс.руб.)

| | USD | | DEM | | RUR | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| *Филиалы* | *Пок.* | *Прод.* | *Пок.* | *Прод.* | *Пок.* | *Прод.* |
| "Беларусбанк" | 280,0 | 285,0 | 154,0 | 1574,0 | 11,8 | 12,3 |
| "Белагропромбанк" | 285,0 | – | 157,0 | – | 11,7 | 12,4 |
| "Приорбанк" | 300,0 | – | 165,0 | – | 12,0 | – |
| "Белпромстройбанк" | 280,0 | 285,0 | 155,0 | 157,0 | 11,5 | 12,0 |
| Курс "черн. рынка" | 310,0 | 330,0 | 165,0 | – | 12,0 | – |

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



ТРИБУНА

# ПОЗВОЛЬТЕ ПОЗНАКОМИТЬСЯ

**— Как вы заводите себе друзей?**
**С таким вопросом корреспондент "ГС" обратилась на улице к молодым слонимчанам.**

***Игорь (26 лет):***
— Я могу подойти к любой девушке, которая мне нравится и познакомиться с ней. Сегодня, например, я познакомился с девушкой в магазине. Правда, невозможно прогнозировать: продлиться ли наше знакомство. Здесь идет естественный отбор, как в природе. Для меня, что дружба, что любовь — одно слово "уважение". Уважение друг к другу — это залог жизни.

***Денис:***
— Я расскажу про конкретный случай. С девушкой я познакомился на рынке.



Она новенькая здесь, а я на рынке работаю уже три года. Прошла мимо, я подозвал, спросил как зовут. Рассчитываю, что это знакомство будет продолжено.

***Елена:***
— Я знакомлюсь с людьми везде, где есть такая возможность: на дискотеке, в гостях, на улице. Это для



меня не проблема. Ничего зазорного в этом нет. Поэтому всем советую поступать также.

***Алексей, 17 лет:***
— В большинстве случаев знакомлюсь в школе, на дискотеке, в гостях, в компании друзей, а вот на



улице знакомиться, мне кажется, у нас не принято.

***Елена, 19 лет:***
— Я предпочитаю знакомиться на дискотеках или в гостях. На улице к кому-



то подойти я не смогу, не хватит смелости, даже если человек мне очень понравится.

***Наташа, 19 лет:***
— Друга или подругу можно завести только в том случае, если удастся с ним познакомиться достаточно близко. Хорошие отноше-



ния складываются, когда хорошо поймешь человека.

***Лариса:***
— Никогда не познакомлюсь на улице. Во-первых, у нас не принято, чтобы девушка "навязывалась" парню. А во-вторых, сме-



лости у меня маловато для такого подвига. Обычно я знакомлюсь на дискотеках, а еще лучше, когда мои друзья с кем-то меня познакомят. Так надежнее.

***Андрей, 20 лет:***
— Знакомлюсь на дискотеках во время танцев.



Потом могут и отношения хорошие сложиться. Друзей также на массовых тусовках нахожу. А дальше что будет — не угадаешь.

***Алексей, 20 лет:***
— Знакомлюсь, как получится: и в гостях, и на улице. Все само собой происходит, я не набиваюсь. Больше знакомств — шире кругозор, интересная жизнь.

**Опросила Елена СИНЯК**
**Фото Николая СУПРУНА**

ПОЧТА

## Врачебное волшебство

Десять лет назад меня мучили сильные боли в желудке (открылась язва). Передо мной стала задача: надо бросить курить! Но легко сказать — бросить. Тот, кто когда-нибудь курил по-настоящему, знает, как это трудно. Я неоднократно пытался отказаться от курения самостоятельно, но срывался, и сигарета вновь оказывалась в моей руке. Бывало, что на день не хватало двух пачек сигарет. И вот однажды один из моих знакомых, которому я рассказал о своей проблеме, посоветовал обратиться мне за помощью к врачу-психотерапевту Геннадию Урбановичу.

— Он тебя избавит от этой вредной привычки быстро и надежно. Я был самым настоящим алкоголиком. После трех сеансов ("обычных" бесед), без всяких лекарств что-то переключилось во мне. Больше я не хочу пить. Сам себе удивляюсь. Пусть хоть рекой водка течет — мне все равно! Понимаешь, стал трезвым человеком и в семье все нормально! — признался мне знакомый.

И вот я подумал тогда, что если уж "алкоголику" доктор помог, то и мне, курильщику, стоит попробовать.

Прошло пять сеансов, обычных бесед, как мне тогда показалось, минут по 20-30. Честно говоря, был я в некотором сомнении — неужто поможет? С таким необычным методом лечения я встретился впервые: врач говорит, пациент слушает, ни тебе таблеток, ни тебе уколов. Но каково же было мое удивление, когда результат превзошел все мои ожидания. Я совсем перестал ощущать потребность в курении, к сигаретам стал совсем равнодушен — как будто и не курил никогда. С тех пор прошло больше десяти лет, а мое чувство благодарности к врачу и доброму, отзывчивому человеку Геннадию Урбановичу живет в моей душе и теперь.

**Борис САВКО,**
**житель Слонима**

## ВЯСКОВЫ ЎРАЧ З ТУЛАВА

Рычард Іванавіч Варабей усё жыццё працуе доктарам у сельскай Тулаўскай бальніцы Зэльвенскага раёна. Ён ганаровы донар СССР, выдатнік санітарнай службы. Акрамя "залатых рук", высакародная кроў сельскага доктара выратавала жыццё дзесяткаў людзей.



**Антон РАЧОК**

НАША СПАДЧЫНА

# МАСТАК-КЕРАМІСТ МІКАЛАЙ НЕСЦЯРЭЎСКІ

Багатая і цікавая калекцыя керамікі Мікалая Несцярэўскага (каля 70 работ) экспануецца ў Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

Гэта — керамічны посуд і пано, дэкаратыўныя скульптуры і пласты — творы са свету духоўнага, творчага. Уражвае, як мяккі кавалак простай гліны ў руках мастака ператвараецца ў прыгожую фігурку народнага музыкі або ў фантастычную птушку. Даведзеныя да дасканаласці творы кранаюць сваёй прыгажосцю.

— Мне надзвычай прыемна, што шэраг маіх работ застанецца ў Дзятлаве, блізкім майму сэрцу горадзе — горадзе майго юнацтва. Няхай дотык да прыгожага сцвярджае лепшае ў людзях, няхай радуе іх, — сказаў Мікалай Несцярэўскі пры перадачы твораў у Дзятлаўскі музей. Увогуле, мастак перадаў музею каля трыццаці сваіх работ.



*Вырабы з керамікі мастака Мікалая Несцярэўскага*

Мікалай Несцярэўскі — вядомы ў рэспубліцы мастак-керамist, член Саюза мастакоў СССР. Ён нарадзіўся 30 сакавіка 1931 года ў невялічкай вёсачцы каля Беластока. У 1945 годзе сям'я пераехала ў Дзятлава. Мікалай зарабляў на хлеб, апрацоўваючы дрэва ў дзятлаўскай пасляваеннай арцелі "Чырвоны Кастрычнік". Спачатку быў вучнем сталяра, потым працаваў самастойна. Умеў зрабіць любую рэч, сам ствараў эскізы.

Меў ён і артыстычную схільнасць: спяваў, танцаваў, іграў на акардэоне. Ён арганізаваў у Дзятлаве духавы аркестр, доўга кіраваў ім. Адначасова завочна закончыў Гродзенскае культасветвучылішча. Пасля чаго працаваў настаўнікам малявання ў Дзятлаўскай СШ№1.

Прызванне мастака паклікала Мікалая Несцярэўскага ў Івянец, на фабрыку мастацкай керамікі і вышыўкі, дзе яму пашчасціла пазнаць сакрэты ганчарнага мастацтва ў вядомых майстроў, потым перавёўся ў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут на вячэрняе аддзяленне.

Пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута працаваў мастаком-керамістам на Мінскім мастацка-вытворчым камбінаце.

Мастацтва керамікі стала для Мікалая Несцярэўскага сэнсам жыцця. Тут ён знайшоў сябе і свой мастацкі стыль. Творы Несцярэўскага падарожнічалі па многіх выставах, іх фатаграфавалі для часопісаў і кніг. Яго вырабы аздобілі інтэр'еры многіх будынкаў Мінска, Валгаграда, Гродна і іншых гарадоў. Мінчанам добра вядома кафэ "Бульбяная" на праспекце Ф.Скарыны. Уся кераміка там выканана Несцярэўскім.

Мікалай Лаўрэнцьевіч — адзін з аўтараў дэкаратыўных керамічных платоў, якія ўпрыгожваюць станцыю метро "Плошча Якуба Коласа" у Мінску.

Мікалай Несцярэўскі займаўся афармленнем магазіна "Мінск" у Валгаградзе, кафэ ў Светлагорску і Салігорску. Працаваў над афармленнем будынка аэрапорта "Мінск-2". Сцены Гродзенскага тэатра лялек таксама ўпрыгожаны творамі Мікалая Несцярэўскага.

І сёння Мікалай Лаўрэнцьевіч у росквіце творчых сіл. А гэта сведчыць пра тое, што ад майстра трэба чакаць новых цікавых работ.

**Тамара ПАЛХОВІЧ,**
**навуковы супрацоўнік Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея**

НАВІНЫ

## Перамога слонімца

**У Брэсце прайшоў чэмпіянат Беларусі па кіданню дыска.**

Першае месца заняў трэнер слонімскай ДЮСШ-1 Валерый Ягаўдзік. Дарэчы, гэта адзіны на сённяшні дзень майстар спорту міжнароднага класа ў Слоніме.

**Сяргей ЁРШ**

## У Мастах смятана — дэфіцыт

**Сёння ў Мастах купіць смятану можна толькі раніцай, ды і то на працягу паўгадзіны пасля яе завозу ў крамы.**

Як сцвярджаюць гандляры, звычайна завозяць не болей як пяць кілаграмаў штодня.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Бойкот Союза поляков

**Руководство Союза поляков Беларуси (СПБ) отказалось участвовать в III Всебелорусском фестивале национальных культур.**

По словам зампредседателя СПБ Тадеуша Малевича, этот отказ является своеобразным актом протеста против нарушения белорусскими властями законодательства в области национальной политики, в частности — прав поляков получать образование на родном языке.

**БелаПАН**

## СКОРО НА ЭКРАНЕ

**В кинотеатре "Мир" с 12 по 15 марта состоится премьера нового художественного широкоэкранного фильма "Титаник" американского режиссера Джеймса Камерона. В главных ролях снялись Леонардо Ди Каприо и Кейт Уинслет.**

Это едва ли не самая дорогостоящая кинолента (280 млн. долларов) в очередной раз воссоздает подробности крупнейшей трагедии в истории судоходства. Традиции "фильма катастроф" в данной версии дополняет основной мелодраматической линией неожиданной и безмерной любви героев, борющихся с природой. Почти натуральный макет знаменитого корабля, впечатляющие реалистичные эпизоды паники и гибели людей, яркий любовный "треугольник" изрядно пощекочут нервы зрителям.

К созданию фильма имеют отношение русские ученые-океанологи: все уникальные глубоководные съемки сделаны из чудо-батискафа "Мир" с российского научно-исследовательского судна "Академик Мстислав Келдыш"...

"Титаник" задумывался Кэмероном, как фильм века: не только из-за размаха, с которым велись съемки, но и просто с точки зрения истории. Картина приглашает зрителя поразмышлять об уроках века. Самый большой лайнер, затонувший в ночь




15 апреля 1912 года, унес на дно океана надежды, иллюзии и высокомерие людей...

"Титаник" повторил успех абсолютного оскаровского рекордсмена — эпической саги "Бен Гур" (1959 г.) — и получил премии за лучшие: фильм года, режиссуру, работы художника и оператора, костюмы, монтаж, музыку, оригинальную песню, звук и визуальные эффекты.

Приглашаем слонимчан и гостей посетить кинотеатр "Мир" и посмотреть "Титаник".

**Лилия ЯНУШЕВИЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016


# РАТУША



# МЕСТНАЯ ВЛАСТЬ: КАКОЙ ЕЙ БЫТЬ...

# КАК СОЗДАТЬ УСЛОВИЯ ДЛЯ ДЕМОКРАТИЧЕСКИХ ВЫБОРОВ

**1. Под местным самоуправлением понимается право и реальная способность органов местного самоуправления регламентировать значительную часть государственных дел и управлять ею, действуя в рамках закона, под свою ответственность и в интересах местного населения.**

**2. Это право осуществляется советами или собраниями, состоящими из членов избранных путем свободного, тайного, равного, прямого и всеобщего голосования.**

**Советы или собрания могут располагать подотчетными им исполнительными органами. Это положение не исключает обращения к собраниям граждан, референдуму или любой другой форме прямого участия граждан, там, где это допускается по закону.**

**(Европейская Хартия о Местном Самоуправлении, статья 3)**

## Происхождение власти

В демократическом обществе власть выбирают люди. Каждый человек делает осознанный выбор, исходя, прежде всего из своих интересов.

Но конечный результат выборов зависит не только от предпочтений граждан, но и от избирательной системы. Например, в ходе выборов в Слонимский горсовет в 1995 году за 28 представителей от Коммунистической партии и партии Белорусский народный фронт проголосовало 3498 избирателей, или 14% от общего числа избирателей, которые приняли участие в выборах (6,9% и 7,1% соответственно). В итоге же от этих партий избран только 1 человек – представитель компартии депутат Анастасия Шляхтенко. Это результат действующей у нас мажоритарной избирательной системы. Поэтому в демократических государствах, как правило, существует система пропорционального представительства (выборы по партийным спискам), или, реже, смешанная.

## Сила — в доверии людей

Власть сильна, когда ей доверяют. Поэтому не только избиратели, а и сами представители власти заинтересованы, чтобы итоги выборов не вызывали сомнений. А для этого выборы должны быть "прозрачными" для всех заинтересованных сторон. Одним из основных органов, обеспечивающим честные и справедливые выборы, являются избирательные комиссии. Избирательные комиссии формируются политическими партиями из числа представителей этих партий, которые уже внутри самих комиссий взаимоконтролируют друг друга.

Когда же избирательные комиссии формируются властями, результаты выборов нередко подвергаются сомнению. Бывают и трагикомичные ситуации. Яркий пример такой ситуации – довыборы в Верховный Совет Беларуси и голосование по референдуму, которые проходили одновременно 24 ноября 1996 года.

Вот официальные данные по Гродненской области о количестве избирателей, проголосовавших 24 ноября с 18 до 22 часов (примерно такие же цифры и по остальным областям):

– на участках, где шло голосование по референдуму и по выборам – 8%,

– на участках, где шло голосование только по референдуму – 30%.

Как объяснить эту разницу?

"Люди приехали с дач и пошли на референдум", – таким был ответ журналистам А.Г.Лукашенко в прямом телевизионном эфире 25.11.96. А вот почему люди не пошли на референдум там, где шло голосование и по выборам депутатов Верховного Совета – ответа нет до сих пор. Хотя ответ очевиден: исполнительная власть была заинтересована в том, чтобы референдум состоялся, и, сотвественно, не заинтересована в довыборах в Верховный Совет.

Не случайно, результаты ноябрьского (1996 г.) референдума никем в мире, кроме России, не признаны.

## Опора на ничто

Однако обеспокоенность Европы по поводу нарушения избирательного законодательства в РБ никак не повлияла на значительную часть белорусов.

Многие граждане нашей страны до сих пор не воспринимают государственные и общественные институты, как результат человеческой деятельности. Потому и политическая власть воспринимается ими как существующая от природы. А природные законы не изменяют. К ним приспосабливаются. Воздействовать на власть ради ее переподчинения собственным интересам для них то же самое, что и управлять погодой. Не потому ли нарастающее недовольство выливается в такие вялые формы протеста.

Таким состоянием общества пользуется нынешняя власть. Власть, основанная на недостатке здравого смысла, нехватке политической, и общей культуры. Власть, основанная не на идее традиции или закона, а на их отсутствии. Власть от пустоты.



***Міхась Воронец родился в 1958 году в д.Микуличи Гомельской области. После окончания военного училища служил в Казахстане, Туркменистане, Афганистане, Чехословакии, России. Военную службу закончил в Беларуси в 1993 году. В 1996 году окончил исторический факультет Белгосуниверситета.***

***В Слониме — с 1993 года. Работал учителем в СШ №6, агентом Белгосстраха.***

***С 1995 года — депутат городского Совета, председатель комиссии по мандатам, вопросам местного самоуправления и связям с общественными организациями.***

## Выборы без выбора

4 апреля 1999 года в Беларуси должны состояться очередные выборы в местные Советы. Проходить они будут по новому избирательному Закону. Чем же был плох старый закон, становится ясно при ознакомлении с нынешним. Новый закон "О выборах депутатов местных Советов депутатов Республики Беларусь" отличается крайней степенью недемократичности: оппозиция фактически лишена возможности выдвигать своих кандидатов. Кроме того, для подстраховки, власти на любом этапе избирательной кампании могут "законно" отсеять неугодного кандидата.

## Фактор страха

Казалось бы, разумнее допустить оппозицию (тем более, если она, как утверждают власти – слабая) в ограниченном количестве в местные Советы. Они там ничего не решали бы, но при этом создавалась бы иллюзия демократии. Но власти поняли, что в условиях жестокого кризиса и все возрастающего недоверия к ним со стороны населения, даже один "не свой" депутат в местном Совете может доставить массу неприятностей. Очевидно, чем дальше, тем больше фактор страха перед любыми оппонентами становится главным мотивом поведения властей.

Состав городской избирательной комиссии по выборам депутатов Слонимского горсовета (большинство – крупные руководители) свидетельствует, что слонимские власти не только не исключение, но наиболее яркий пример этого.

И их можно понять. Образно говоря, уж очень "узок круг этих людей, страшно далеки они от народы". И не только от народа...

## Новая оппозиция

...В отличие от выборов 1995 года нынешние выборы в городской Совет в большинстве своем проигнорировали директора промышленных предприятий города. Это говорит о многом. Наиболее влиятельные люди города заявили таким образом о неприятии нынешней системы власти. Ситуация была настолько удручающей, что слонимская вертикаль пошла на крайние меры. Она вынуждена была, за неимением иных "своих", зарегистрировать кандидатами в депутаты Слонимского горсовета людей, перед этим брошенных на "усиление" избирательных комиссий (согласно ст.26 нового Закона, кандидаты в депутаты не имеют права входить в состав избирательных комиссий – **ред.**): тов. Бессонава Ю.В., начальника управления магистральных газопроводов государственного предприятия "Белтрансгаз", тов. Бердуло О.Р., директора ОАО "Слонимский мясокомбинат", тов. Данюк М.В., редактора газеты "Слонимский вестник", тов. Мазаника С.М., начальника дорожно-эксплуатационного управления №54, тов. Угриновича Э.В., заместителя председателя горисполкома (экс-члены городской избирательной комиссии, включая председателя комиссии Угриновича Э.В.), тов. Рудакова А.А., директора Слонимского межрайонного управления газового хозяйства "Слониммежрайгаз", тов. Гончарик Н.Н., заместителя директора производственного объединения жилищно-коммунального хозяйства Слонимского горисполкома (члены окружных избирательных комиссий по выборам в областной Совет №20 и №21 соответственно).

В итоге удалось заполнить все округа, но только в каждом 5-ом будут альтернативные кандидаты.

К слову, в Слонимском районе не пришлось прибегать к подобным авральным методам. Там, по всей вероятности, председатель райисполкома Зданович С.Т. контролирует ситуацию.

## Точка отсчета

Принятие нового закона о выборах в местные Советы – это не просто опробация, обкатка всего будущего избирательного законодательства. Это новая точка отсчета в отношениях между властью и народом.

У народа отобрано право выбора. Оставлено только право голосовать: или за кандидата вертикальщика, или – за кандидата от вертикали.

**Міхась ВОРОНЕЦ**







**ГРАМАДСКАЯ ПРАВААБАРОНЧАЯ ПРЫЁМНАЯ**
**працуе:** штодня з 9 до 13, за выключэннем выхадных.
Тэл. 2-54-17.

Гродненский информационно-правовой центр свободных и независимых профсоюзов консультирует граждан по вопросам, связанным с трудовыми отношениями, помогает создавать на предприятиях, учреждениях, учебных заведениях свободные и независимые профсоюзы.
Тел. 8-22-72-11-73.

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

